# БЮЛЕТЭНЬ

Беларускага рэспубліканскага камітэту прафэсыянальнага саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў С. С. С. Р.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

Менск, Пляц волі, — Дом працы —

ТЭЛЕФОНЫ:
Старшыні ЦП № 4-08
Арган. сэктар № 4-08

№ 10 — 30-га сьнежня 1931 г. — № 10



ЗЬМЕСТ.





## ДАДАТКОВАЯ ЗГОДА

*Гор. Менск, 8-га сьнежня 1931 году*

Гэта дадатковая згода заключана паміж Беларускім Рэспубліканскім камітэтам прафсаюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў з аднаго боку і Малочна-прамысловым трэстам Бел., з другога боку ў разьвіцьцё § 58 генэральнага калектыўнага дагавору, заключанага на 1931 г. і зацьверджанага НКПрацы БССР, 27-II 1931 г. пад № 148 ў наступным:

1. У мэтах стымуляваньня ўздыму прадукцыйнасьці працы рабочых па жывёлаводзтве, павялічэньня выхаду



таварнай прадукцыі, паляпшэньня яе якасьці, барацьбы з адыходамі пагалоўя, як дарослага, так і маладняку, паляпшэньня матар'яльна-бытавых умоў рабочых, ліквідацыі ўраўнілаўкі ў зарплаце, у цеснай увязцы паміж колькаснымі і якаснымі паказчыкамі працы кожнага рабочага перавесьці рабочых па жывёлаводзтве ў саўгасах Малочна-прамысловага трэсту Бел. на прагрэсыўную зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы на падставе палажэньня аб прагрэсыўнай зьдзельна-прэміяльнай сыстэме аплаты працы рабочых па жывёлаводзтве ў саўгасах Малочна-прамысловага трэсту Бел, дадаваемага да гэтай дадатковай згоды.

2. Усе раней выданыя былым Белсаўгастрэстам палажэньні і інструкцыі аб зьдзельна-прэміяльнай сыстэме аплаты працы у жывёлаводзтве з моманту падпісаньня гэтай дадатковай згоды ў саўгасах Малочна-прамысловага трэсту Бел.—адмяняюцца.

*Дырэктар Малочна-прамысловавага трэсту Бел.* **Сьмірноў.**

*Старшыня Рэспубліканскага камітэту прафсаюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў* **Манжалей.**

---

БЕЛМАЛПРАМТРЭСТ
№ 3 эп/24 8-XII-31

## Усім дырэктарам і рабачкомам саўгасаў Белмалпрамтрэсту

Дасылаючы дадатковую згоду ад 8-XII-31 г. і „палажэньне аб прагрэсыўнай зьдзельна-прэміяльнай сыстэме аплаты працы па жывёлаводзтве ў саўгасах Малочна-прамысловага трэсту Бел“, прапануецца:

1) Не пазьней 1-га студзеня 1932 г. увесьці на ўсіх работах па жывёлаводзтву прагрэсыўную зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы.

2) Правесьці шырокую растлумачальную працу аб значэньні прагрэсыўнай зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты працы як мэтаду павялічэньня выхаду таварнай прадукцыі, паляпшэньня яе якасьці, барацьбы з адыходамі пагалоўя, ліквідацыі абязьлічкі, паляпшэньня матар'яльна-бытавых умоў рабочых, ліквідацыі ўраўнілаўкі ў зарплаце. У той час, як пры звычайнай зьдзельшчыне выпрацоўка звыш норм аплачваецца па тых-жа зьдзельных расцэнках як і выпрацоўка ў межах нормы, пры прагрэсыўнай зьдзельшчыне выпрацоўка звыш нормы аплачваецца па расцэнках прагрэсыўна ўзрастаючых. Гэта заахвочвае да перавыкананьня норм выпрацоўкі і дае павялічэньне заработку рабочага.

3) Правядзеньне прагрэсыўнай зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты працы павінна быць увязана з шырокім разгортваньнем сацспаборніцтва (паміж асобнымі рабочымі, групамі рабочых, цэхамі, вучасткамі, адпаведнымі цэхамі іншых саўгасаў), ударніцтвам, зьменна-сустрэчным пляна-ваньнем, арганізацыяй гаспадарча-разьліковых брыгад, максымальна канкрэтызуючы абавязкі па саццагаварох і ўдарніцтве. Адначасова арганізаваць збор рацыяналізатарскіх прапаноў і іх ажыцьцяўленьне.

4) Нормы выпрацоўкі і нагрузкі, устаноўленыя інструкцыяй, ня могуць быць зьніжаны. На падставе сацспаборніцтва і ўдарніцтва трэба дабівацца іх павялічэньня.

5) У выпадку сыстэматычнай недавыпрацоўкі устаноўленых норм выпрацоўкі, або нагрузкі і пагоршаньня якасных паказчыкаў, рабочы можа быць пераведзены на іншую ніжэйаплачваемую работу, або звольнены, згодна артыкула 47 КЗаП.

6) Захоўваючы калектыўныя (брыгадныя) формы арганізацыі працы (брыгады ўборшчыкаў, кармавікоў, даярак, цялятніц і г. д.), арганізаваць індывідуальную аплату зьдзельных работ у дакладнай адпаведнасьці з колькасьцю і якасьцю работы кожнага рабочага.

7) Работу на скотным двары трэба арганізаваць такім чынам, каб былі выдзелены асобныя рабочыя прыбіраль-

шчыкі і асобныя рабочыя кармавікі. Пры нязначнай колькасьці статку (да 200 галоў дарослага статку), арганізоўраецца адна брыгада, якая выконвае абавязкі і прыбіральшчыкаў і кармавікоў. Пры значнай колькасьці цялят (калі пэўная ўзросная група можа даць рабочаму поўную нагрузку). цялята разьбіваюцца на паасобныя ўзросныя групы з абслугоўваньнем іх асобнымі рабочымі, а пры нязначнай колькасьці цялят, адным і тым-жа асобам можа быць даручан долгяд цялят розных узростаў. У апошнім выпадку разьлік утвараецца па кожным цяляці ў адпаведнасьці са зьдзельнымі расцэнкамі, устаноўленымі для кожнай узроснай групы.

8) Там, дзе гэта дазваляецца ўмовамі (наяўнасьць груп статку з аднолькавымі ўдоямі, якія могуць даць даярцы поўную нагрузку), рэкамэндуецца прымацоўваць да паасобных даярак кароў з аднолькавымі ўдоямі. Напрыклад, у саўгасе маецца значная група статку з сярэднім сутачным удоем у 8 літраў, група статку з удоем у 7 літраў, група статку з удоем у 6 літраў і г. д. Да кожнай даяркі прымацоўваецца група з аднолькавым удоем. У гэтым выпадку адна даярка будзе абслугоўваць 19 кароў, з 8-мі літровым удоем, другая 20 кароў з 7-мі літровым удоем, трэцяя—21 карову з 6-ці літровым удоем і г. д.

Там, дзе гэта немажліва правесьці, да ўсіх даярак прымацоўваецца аднолькавая колькасьць кароў з аднолькавым сярэднім удоем. У гэтым выпадку кожная даярка будзе мець розных кароў па ўдойнасьці (некалькі 8-мі літровых, некалькі 7-мі літровых, некалькі 6-ці літровых і г. д.), а сярэдні дзённы ўдой усіх груп аднолькавы. Пры чым, пры прымацаваньні трэба зрабіць гэтак, каб прымацованыя да пэўнай даяркі каровы былі-б рознага пэрыяду ацёлу, гэтым дасягаецца больш роўнамерная нагрузка.

Сярэдні дзенны ўдой трэба вылічваць для 3-хмесячнага пэрыяду, паколькі раней гэтага пэрыяду нельга пераглядаць норм выпрацовак і зьдзельных расцэнак. Спосаб разьліку сярэдне-дзённага ўдою паказан на стар. 141 і 142 генэральнага калектыўнага дагавору на 1931 г.

9) У адносінах аплаты за догляд цялят паўшых да вызначэньня прыросту, растлумачваецца:

а) калі камісіяй будзе ўстаноўлена, што цялё пала па віне цялятніцы, яна за догляд гэтага цяляці ніякай аплаты не атрымлівае;

б) калі камісіяй будзе ўстаноўлена, што цялё пала не па віне цялятніцы, яна атрымлівае за догляд па зьдзельным расцэнкам, якія ўстанаўліваюцца шляхам дзяленьня дзённай тарыфнай стаўкі на норму нагрузкі ў галовах.

10) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на наладжваньне вучоту зьдзельных работ. Вучот павінен быць пастаўлен такім чынам, каб рабочыя не пазьней, чым на заўтра ведалі свой заработак за мінулы дзень.

11) Перавод работ па жывёлагадоўлі на прагрэсыўную зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы павінен быць зроблены ўдарнымі тэмпамі. Асабістая адказнасьць за правядзеньне гэтай работы ўскладаецца на дырэктара саўгасу і на старшыню рабачкому. Аб праробленай працы падрабязна паведаміць трэст і Рэсп. к-т саюзу РЖС не пазьней 25-га сьнежня г. г. У паведамленьні асабліва падрабязна павінны быць асьветлены наступныя пытаньні:

а) Устаноўленыя нормы выпрацоўкі, або нагрузкі і зьдзельныя расцэнкі і з якога часу яны ўведзены ў жыцьцё.

б) Як наладжаны вучот працы.

в) Як разьмеркавана жывёла ў мэтах ліквідацыі абязьлічкі.

г) Якія ўстаноўлены правілы ўнутранага распарадку на скотных дварох і правы і абавязкі работнікаў.

Апрача паведамленьня трэсту і саюзу трэба вопыт работы шырока асьвятляць у газэце „Сельгасрабочы Бел.“.

*Дырэктар Малочна-прамысловага трэсту* **Сьмірноў.**

*Старшыня Рэсп. к-ту Саюзу РЖС* **Манжалей.**

# ПАЛАЖЭНЬНЕ

**аб прагрэсыўнай зьдзельна-прэміяльнай сыстэме аплаты працы рабочых па жывёлаводзтве ў саўгасах Малочна-прамысловага трэсту Бел.**

„Саўгасы ў галіне прымяненьня зьдзельшчыны павінны зьяўляцца гэткім-жа прыкладам для калгасаў, якім яны зьяўляюцца ў галіне арганізацыі вытворчасьці і прымяненьня новых машын".

(З пастановы Чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б).

„Без сыстэматычнага росту прадукцыйнасьці працы як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскае гаспадаркі мы ня можам разьвязаць задач рэканструкцыі, ня можам ня толькі дагнаць і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны, але нават адстаяць свае самастойнае існаваньне".

(З прамовы тав. Сталіна на XVI партзьезьдзе

У мэтах стымуляваньня ўздыму прадукцыйнасьці працы павялічэньня выхаду таварнай прадукцыі, паляпшэньня яе якасьці, барацьбы з адыходамі нагалоўя, ліквідацыі абязьлічкі, паляпшэньня матар'яльна-бытавых умоў рабочых, ліквідацыі ўраўнілаўкі ў зарплаце, у цеснай ўвязцы ў аплаце за колькасныя і якасныя паказчыкі, увесьці ў жывёлаводзтве прагрэсыўную зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы на наступных падставах:

## АГУЛЬНАЯ ЧАСТКА

1. Прагрэсыўная зьдзельна-прэміяльная сыстэма аплаты працы на ўсіх работах па жывёлаводзтве ўстанаўліваецца ў абавязковым парадку.

2. Пры ўвядзеньні прагрэсыўнай зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты працы, адміністрацыяй устанаўліваюцца максымальна тэхнічна магчымыя нормы выпрацоўкі для кожнага паасобку віда работ.

Нормы выпрацоўкі вызначаюцца з разьліку вынікаў работ кваліфікаванага рабочага ўдарніка данага саўгасу.

3. Нормы выпрацоўкі ўстанаўліваюцца з разьліку 8-мігадзіннага рабочага дня.

4. Перагляд норм выпрацоўкі вытвараецца ў наступных выпадках:

а) Выяўленьня няправільнасьці існуючых норм;

б) Правядзеньня арганізацыйных, або тэхнічных мераприемстваў, павышаючых нормы выпрацоўкі.

Увага: Далейшы перагляд норм выпрацоўкі ў саўгасе дапушчаецца толькі ў тым выпадку, калі будзе выяўлена рэзкае павышэньне, або паніжэньне ўдояў, у сувязі з чым пераглядаецца як расцэнак, гэтак і норма.

Адміністрацыі сньугасаў не дазваляецца перагляд норм больш часта чым 1 раз у 3 месяцы.

5. Зьдзельныя расцэнкі ўстанаўліваюцца для паасобных работ шляхам дзяленьня дзённай тарыфнай стаўкі данай работы на ўстаноўленую норму выпрацоўкі.

6. Ва ўсіх выпадках, калі сталыя і сэзонныя рабочыя выконваюць работу,тарыфікуемую ніжэй устаноўленай для іх тарыфнай стаўкі, да іх дзённага заработку дадаецца розьніца паміж іх тарыфнай стаўкай і тарыфнай стаўкай работы.

7. Нормы выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі, распрацаваныя адміністрацыяй, абгавораныя на агульных сходах членаў прафсаюзу, вытворчых нарадах (цэхавых, групавых, па прафэсыях), аб'яўляюцца не пазьней чым за 7 дзён да ўвядзеньня іх у жыцьцё і з гэтага моманту зьяўляюцца абавязковымі.

8. Усе разнагалосьсі, зьвязаныя з нормамі выпрацоўкі і зьдзельнымі расцэнкамі, разглядаюцца ў РКК у парадку канфлікту.

Да разьвязаньня пытаньня ў РКК нормы выпрацоўкі і зьдзельныя расцэнкі, аб'яўленыя адміністрацыяй, зьяўляюцца абавязковымі.

9. У мэтах упарадкаваньня работы і дасягненьня найвышэйшай эфэктыўнасьці жывёлагадоўлі, адміністрацыя саўгасу ўстанаўлівае і вывешвае на відных мясцох правы і абавязкі кожнага паасобку рабочага ў жывёлаводстве і чоткі распарадак работ на скотных дварох (пачатак і канец работ, час чысткі памяшканьня і статку, кармленьне, паеньне,

дойка, прагулкі, дастаўка і прыгатаўленьне корму, вэтэрынарны агляд статку, дзяжурствы, вучот малака і кармоў і г. д.).

## АПЛАТА ДАЯРАК

10. У мэтах аздараўленьня работ па абслугаваньні статку, ліквідацыі абязьлічкі, за даяркай вытвараецца прымацаваньне пэўнай групы статку.

Прымацаваньне кароў да даярак вытвараецца гэткім парадку, каб яны атрымалі аднолькавыя колькасныя групы з аднолькавым сярэднім дзённым удоям па групе (гэта дасягаецца раўнамерным прымацаваньнем да даярак кароў розных груп па ўдойнасьці і па стадыі лактацыі). Там, дзе гэта дазваляецца ўмовамі, рэкамэндуецца прымацоўваць да асобных даярак кароў з аднолькавымі ўдоямі, што дае магчымасьць стандарызаваць кармленьне, догляд за каровамі.

11. У абавязкі даяркі ўваходзіць: чыстка кароў, абмываньне і масаж вым'я, даеньне кароў, утрыманьне ў чыстаце начыньня (падойнікаў, вядзер), раздача канцэнтраваных, грубых і сакавітых кармоў, і, у стойлавы пэрыяд выган на прагулкі статку сумесна з прыбіральшчыкамі і прывязваньне іх.

12. Пры рабоце на скотным дварэ ўстанаўліваецца час для даеньня, як максымум—2 гадзіны.

13. Работа па даеньні тарыфікуецца па 4-м разрадзе.

14. Пры перавыкананьні норм выпрацоўкі, даяркі атрымоўваюць прыработак за ўсе надоенае звыш нормы малако па прагрэсыўна павялічваючыхся расцэнках, менавіта:

| | | | |
|---|---|---|---|
| За малако надоенае звыш нормы да | 10 проц. | расц. павял. на | 35 проц. |
| „ „ „ „ на | 11-20 „ | „ „ на | 75 „ |
| „ „ „ „ на | 21-30 „ | „ „ на | 120 „ |
| „ „ „ „ на | 31-40 „ | „ „ на | 175 „ |
| „ „ „ „ на | 41-50 „ і выш. „ | „ на | 250 „ |

Павялічэньне расцэнкі не распаўсюджваецца на ўсю выпрацоўку, а толькі на тую выпрацоўку, якая атрымана звыш нормы.

15. У абавязковым парадку ўводзіцца зьдзельна-прагрэсыўная аплата працы даярак выключна з літра надоянага малака, па нормах выпрацоўкі і зьдзельных расцэнках паказаных у табліцы № 1.

Прыклад.—Да даяркі прым ацаваны 22 каровы з сярэднім дзённым удоям 5 літраў. Норма сутачнага ўдою складае 110 літраў. Даяркай надоена 137,5 г. з. норма перавышна на 25 проц.

За гэта яна павінна атрымаць:

а) За малако ў межах нормы 1,72 к.×110 літр. . 1 р. 89 к.

б) За першыя 10 проц. г. зн. 11 літр., надоеныя звыш нормы, даярка павінна атрымаць па зьдзельным расцэнку, павялічаным на 35 проц. г. зн. па 2,32 к., (1,72 к.+35 проц., г. зн. 0,6 к.=2,32 к.) 2,32 к.×11 літр. . . . . . . . . . . . . . 0 р. 26 к.

в) За другія 10 проц., г. зн. 11 літр. надоенныя звыш нормы, даярка павінна атрымаць па зьдзельным расцэнку, павялічаным на 75 проц., г. зн. па 3,01 кап., (1,72 кап.+75 проц., г. зн. 1,29 к.=3,01 к.) 3,01 к.×11 літр. . . . . . . 0 р. 33 к.

г) За апошнія 5 проц. (звыш 120 проц.) г. зн. 5,5 літраў., надоеныя звыш нормы, даярка павінна атрымаць па зьдзельным расцэнку, павялічаным на 120 проц, г. зн. па 3,78 к. (1,72 к. +120 проц., г. зн. 2,06 к.=3,78 к.) 3,78 кап. ×5,5 літр. . . . . . . . . . . . . . 0 р. 21 к.

Разам . . . 2 р. 69 к.

Пры звычайнай зьдзельшчыне даярка, перавыканаўшы норму на 25 проц., атрымала-б і прыработку 25 проц. і яе заработак складаў-бы 2 р. 36 к., (1 руб. 89 к. + 25 проц., г. зн. 47 к.=2 руб. 36 к.).

Пры прагрэсыўнай зьдзельшчыне, даярка перавыканаўшы норму на 25 проц. атрымае, згодна прыведзеных разьлікаў, прыработку 42,33 проц. г. зн. 80 к. (2 руб. 69 к. —1 р. 89 к.=80 к.).

16. У мэтах працяглага замацаваньня кароў за пэўнымі даяркамі, устанаўліваецца прэміяваньне:

а) Калі ў даяркі ня будзе цякучасьці кароў на працягу году, яна атрымлівае прэмію ў разьмеры $^1/_2$ месячнай сваёй тарыфнай стаўкі.

б) Калі ў даяркі ня будзе цякучасьці кароў на працягу 2-х год, яна атрымлівае прэмію ў разьмеры $1^1/_2$ месячнай сваёй тарыфнай стаўкі.

## АПЛАТА СТАРЭЙШАЙ ДАЯРКІ

17. Работа старэйшай даяркі тарыфікуецца па 7-м разрадзе.

18. Норма нагрузкі старэйшай даяркі вызначаецца ў 200 галоў, а па малаку яе нормай зьяўляецца сума норм выпрацоўкі падпарадкаваных ёй даярак.

19. Аплата працы старэйшых даярак вытвараецца выключна з літра надоянага малака, па нормах выпрацоўкі зьдзельных расцэнках, паказаных у табліцы № 2.

20. Пры перавыкананьні норм выпрацоўкі, старэйшыя даяркі атрымоўваюць прыработак за ўсё надоенае звыш нормы малако па прагрэсыўна павялічваючыхся расцэнках, менавіта.

| | | | |
|---|---|---|---|
| За малако надоенае звыш нормы | да 10 % — | расц. павялічв. на | 35 % |
| " " " " | на 11—20 % | " | " 75 % |
| " " " " | на 21—30 % | " | " 120 % |
| " " " " | на 31—40 % | " | " 175 % |
| " " " " | на 41—50 % | " | " 250 % |

Павялічэньне расцэнка не распаўсюджваецца на ўсю выпрацоўку, а толькі на тую выпрацоўку, якая атрымана звыш нормы.

21. На абавязку старэйшай даяркі ляжыць перадойваньне, нагляд за работай даярак, выкананьне імі норм нагрузкі і заданьняў па ўдоях, нагляд за чыстатой спэцвопраткі і рук даярак, становішчам малочнай пасуды, нагляд за становішчам вымя, нагляд за кармленьнем і чысткай кароў і іншымі работамі, выконваемымі даяркамі.

## АПЛАТА ПРЫБІРАЛЬШЧЫКАЎ СКОТНЫХ ДВАРОЎ

22. Работа па ўборцы скотных двароў тарыфікуецца па 4-м разрядзе.

23. Норма нагрузкі прыбіральшчыка вызначаецца у 100 галоў.

24. На работы па ўборцы ўстанаўліваецца зьдзельная аплата з галавы абслугоўваемага статку.

25. У мэтах стымуляваньня лепшага ўтрыманьня памяшканьня, для прыбіральшчыкаў устанаўліваецца прагрэсыўная аплата з літра ўдою, атрыманага звыш кантрольнага заданьня па абслугоўваемай ім групе статку згодна табліцы № 3.

У аснову ўстанаўленьня зьдзельных расцэнак за літр малака, надоенага звыш кантрольнага заданьня, кладуцца наступныя суадносіны паміж перавыкананьнем кантрольных заданьняў і заработкам па тарыфнай стаўцы прыбіральшчыка.

Пры перавыкананьні кантрольнага заданьня на 10 проц. заработак павялічваецца на 10 проц.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пры перавыкан. | кантрольн. | задан. | на | 20 | проц. | зараб. | павял. | на | 22,5 | проц. |
| „ | „ | „ | „ | 30 | „ | „ | „ | „ | 37,5 | „ |
| „ | „ | „ | „ | 40 | „ | „ | „ | „ | 55 | „ |
| „ | „ | „ | „ | 50 | „ | „ | „ | „ | 75 | „ |

Прыклад: Прыбіральшчык абслугоўвае 100 кароў з сярэднім дзённым удоям 5 літраў. Норма сутачнага ўдою — 500 літраў. Надоена 625 літраў, г. зн. норма перавышана на 25 проц.

Прыбіральшчыку належыць заплаціць:

а) Па пагалоўі 1,89 к. × 100 гал. . . . — 1 р. 89 к.

б) За першыя 10 проц. г. зн. 50 літр. надоеныя звыш нормы 0,38 к. × 50 літр. . . . . . . . . — 19 к.

в) За другія 10 проц. г. зн. 50 літр. надоеныя звыш нормы 0,46 к. × 50 літр. . . . . . . . — 23 к.

г) За апошнія 5 проц. (звыш 120 проц.) г. зн. 25 літр. надоеныя звыш нормы 0,56 к. × 25 літр. . — 14 к.

Разам: . . . 2 р. 45 к.

26. У абавязкі прыбіральшчыка ўваходзіць: чыстка гнаявых і кармавых праходаў, чыстка кармушак, вывазка гною ў гнояхавальнік (калі ён знаходзіцца на адлегласьці ня звыш 100 мэтраў ад скотнага двара), мойка гнаявых і кармавых праходаў, падсьціланьне статку і злучка. Апрача гэтага ў зімовы час сумесна з даяркамі наладжваць выган статку на прагулку.

## АПЛАТА РАБОЧЫХ КАРМАВІКОЎ

27. Работа па падвозцы кармоў на скотныя двары тарыфікуецца па 4-м разрадзе.

28. Норма нагрузкі рабочага-кармавіка вызначаецца ў 200 галоў.

29. На работы па падвозцы кармоў на скотныя двары ўстанаўліваецца зьдзельная аплата з галавы абслугоўваемага статку.

30. У мэтах стымуляваньня своечасовага абслугоўваньня статку для рабочых кармавікоў устанаўліваецца прагрэсыўная аплата з літра ўдою, атрыманага звыш кантрольнага заданьня па абслугоўваемай ім групе статку, згодна табліцы № 4. У аснову ўстанаўленьня зьдзельных расцэнак за літр малака надоенага звыш кантрольнага заданьня кладуцца наступныя суадносіны паміж перавыкананьнем кантрольных заданьняў і заработкам (па тарыфнай стаўцы) рабочага-кармавіка.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Пры | перавыкан. | кантрольн. | задан. | на | 10 | проц. | зараб. | павял. | на | 10 | проц. |
| „ | „ | „ | „ | „ | 20 | „ | „ | „ | „ | 22,5 | „ |
| „ | „ | „ | „ | „ | 30 | „ | „ | „ | „ | 37,5 | „ |
| „ | „ | „ | „ | „ | 40 | „ | „ | „ | „ | 55 | „ |
| „ | „ | „ | „ | „ | 50 | „ | „ | „ | „ | 75 | „ |

31. У абавязкі рабочага кармавіка ўваходзіць падвозка кармоў і раскладка іх па кармавых праходах у адпаведнасьці з нормамі кармленьня кожнай групы статку і падвоз падсьцілкі, пры чым зоатэхнік, або тэхнік-жывёлавод з вечару дае паказаньні аб колькасьці грубых, сакавітых і моцных кармоў і падсьцілкі, падлягаючых падвозцы, і месцы складкі.

Побач з гэтым у абавязкі рабочых кармавікоў уваходзіць падвоз вады да тых скотных двароў, якія не абсталяваны вадаправодам, або іншым спосабам мэханізаванай падачы вады.

32. У мэтах ліквідацыі абязьлічкі у падвозцы кармоў кожны рабочы кармавік прымацоўваецца па абслугоўваньні да пэўных кармавых праходаў з тым, каб даярка ведала, хто з рабочых кармавікоў прымацован да яе кармавога праходу.

## АПЛАТА СКОТНІКАЎ ПРЫ АБ'ЯДНАНЬНІ АБАВЯЗКАЎ ПА ЧЫСТЦЫ СКОТНАГА ДВАРА І ПАДВОЗЦЫ КАРМОЎ І ПАДСЬЦІЛКІ

33. Пры нязначнай колькасьці статку ў гаспадарцы дапушчаецца аб'яднаньне ў адных асоб пералічаных вышэй абавязкаў па чыстцы скотнага двара і падвозцы кармоў і падсьцілкі.

34. Норма нагрузкі ўстанаўліваецца ў 66 галоў.

35. Работа скотніка тарыфікуецца па 4-м разрадзе.

36. На работы скотніка ўстанаўліваецца зьдзельная аплата з галавы абслугоўваемага статку і прагрэсыўная аплата з літра ўдою, атрыманага звыш кантрольнага заданьня па абслугоўваемай ім групе статку, згодна табліцы № 5.

Зьдзельны расцэнак за літр малака надоены звыш кантрольнага заданьня будуецца па тых-жа прынцыпах, што і для прыбіральшчыкаў і кармавікоў.

## АПЛАТА ПАСТУХА І ПАДПАСКА

37 Работа па пасьцьбе статку тарыфікуецца: для пастуха па 4-м разрадзе, для падпаска па 1-м разрадзе.

38. Норма нагрузкі вызначаецца на 1 пастуха і 1 падпаска (сумесна) 100 галоў.

39. На работы па пасьцьбе ўстанаўліваецца зьдзельная аплата з галавы абслугоўваемага статку і прагрэсыўная аплата з літра ўдою, атрыманага звыш кантрольнага заданьня па абслугоўваемай ім групе статку, згодна табліцы № 6. Зьдзельны расцэнак за літр малака, надоены звыш кантрольнага заданьня, будуецца па тых-жа прынцыпах, што і для прыбіральшчыкаў і кармавікоў.

40. У абавязкі пастухоў і падпаскаў уваходзіць: сваячасовы выган статку на пашу, добрая якасьць пасьцьбы, забясьпека ад захворваньняў, забясьпека ад калецтва (намінкі, уколы і г. д.), прыгон усяго статку на скотны двор, сваячасовая і поўная пойка, папярэджаньне вэтэрынарнага і зоатэхнічнага пэрсаналў аб захворваньнях і ахоце жывёлы.

## АПЛАТА ЦЯЛЯТНІЦ

41. Цялятніцы аплачваюцца па зьдзельна-прагрэсыўнай сыстэме аплаты працы па адным прызнаку: а) нормы выкананьня прыросту.

42. У адносінах норм нагрузкі, зьдзельных расцэнак і прэміяваньня за захаваньне маладняку звыш нормы, цяляты разьбіваюцца на 4 групы:

а) 1-я група — цяляты да 10-цідзённага ўзросту — норма нагрузкі 20 шт.

б) 2-ая група — цяляты ад 10-ц. дзённага да 3-х месячнага ўзросту -- норма нагрузкі 30 шт.

в) Цяляты ва ўзрасьце ад 3-х да 6-ці месяцаў — норма нагрузкі 40 шт.

г) Цяляты ва ўзросьце ад 6-ці месяцаў да першай паловы сьцельнасьці — норма нагрузкі — 60 шт.

43. Работа па доглядзе за цялятамі тарыфікуецца па 4-м разрадзе.

44. Разьлік вытвараецца за кожнае цялё паасобку ў залежнасьці ад яго прыросту.

45. Нормай сярэдня-сутачнага прывесу прымаецца (умоўна ў залежнасьці ад пароды і норм кармленьня):

а) для цялят першых 2-х груп — 400 грам.

б) для цялят апошніх двух груп — 300 грам.

46. Прымаючы за сярэдня-сутачную норму прыросту цялё першых 2-х груп у 400 грам (умоўна ў залежнасьці ад пароды цяляці і нормы выпойкі), саўгас устанаўлівае сярэдня-сутачную норму прыросту і вытварае аплату гэтага прыросту нават у межах нормы, г. зн. да 400 грам у прагрэсыўным парадку.

47. Прымаючы *за адзінку* для цялят першай групы

дзённы *прырост да 50 грам*, з цялятніцамі вытвараецца разрахунак, прыкладна ў ніжэйпаказаным парадку.

**Разьлік дзённага заработку цялятніцы па доглядзе за цялятамі ва ўзросьце да 10-ці дзён:**

| Разьмер дзённага прыросту у грамах | Разьліковы дзённы каэфіцыент | Дзённая аплата аднэй галавы ў капейках | Дзённая аплата за 20 галоў |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| 50 | 1,0 | 9,45 | 1 р. 89 к. |
| 100 | 1,1 | 10,40 | 2 р. 08 к. |
| 150 | 1,2 | 11,35 | 2 р. 27 к. |
| 200 | 1,3 | 12,30 | 2 р. 46 к. |
| 250 | 1,4 | 13,25 | 2 р. 65 к. |
| 300 | 1,5 | 14,20 | 2 р. 84 к. |
| 350 | 1,7 | 16,10 | 3 р. 22 к. |
| 400 | 1,9 | 18,00 | 3 р. 60 к. |
| 450 | 2,1 | 19,90 | 3 р. 98 к. |
| 500 | 2,3 | 21,80 | 4 р. 36 к. |
| 550 | 2,5 | 23,70 | 4 р. 74 к. |
| 600 | 2,8 | 26,55 | 5 р. 31 к. |

Прыклад: Цяляты, абслугоўваемыя цялятніцай, далі за дэкаду сярэдня-сутачны прывес:

| | |
|---|---|
| 2 цялят па 200 грам | 8 цялят „ 450 грам |
| 5 „ „ 300 „ | 5 „ „ 500 „ |

Выходзячы з гэтага, яе дзённы заработак у гэту дэкаду будзе складаць:

За цялят з прывесам 200 грам — 12,30 к. × 2 = 24,60 к.
„ „ „ 300 „ — 14,20 к. × 5 = 71,00 к.
„ „ „ 450 „ — 19,90 к. × 8 = 1 р. 59,20 к.
„ „ „ 500 „ — 21,80 к. × 5 = 1 р. 09,00 к.

Разам . . . . . . 3 р. 63,80 к.

48. Апрача гэтага, у мэтах скарачэньня падзяжу, для цялятніц устанаўліваюцца нормы абавязковага захаваньня

да 90 проц. маладняку. Такім чынам сярэднім нармальным адыходам для цялятніцы па доглядзе цялят ва ўзросьце 10-ці дзён будзе 2 цялят, за захаваньне якіх цялятніца атрымоўвае (за дзесяцідзённы пэрыяд догляду):

а) За першае цялё захаванае ад падзяжу, звыш нормы, местн. пароды 4 руб. плем. 5 р.

б) За другое цялё захаванае ад падзяжу, звыш нормы, местн. пароды 6 руб. плем. 10.

49. Для цялятніц па доглядзе цялят ва ўзросьце ад 10-ці дзён да 3-х месяцаў *за адзінку* прымаецца *дзённы прырост у 150 грам* і разрахунак вытвараецца, прыкладна, у ніжэйпаказаным парадку:

**Разьлік дзённага заработку цялятніцы па доглядзе за цялятамі ва ўзросьце ад 10-ці дзён да 3-х месяцаў.**

| Разьмер дзённага прыросту ў грамах | Разьліковы дзённы каэфіцыент | Дзённая аплата аднэй галавы ў капейках | Дзённая аплата за 30 галоў |
|---|---|---|---|
| 50 | 0,8 | 5,04 | 1 р. 51 к. |
| 100 | 0,9 | 5,67 | 1 р. 70 к. |
| 150 | 1,0 | 6,30 | 1 р. 89 к. |
| 200 | 1,1 | 6,93 | 2 р. 08 к. |
| 250 | 1,2 | 7,56 | 2 р. 27 к. |
| 300 | 1,3 | 8,19 | 2 р. 46 к. |
| 350 | 1,4 | 8,82 | 2 р. 65 к. |
| 400 | 1,5 | 9,45 | 2 р. 84 к. |
| 450 | 1,7 | 10,71 | 3 р. 22 к. |
| 500 | 1,9 | 11,97 | 3 р. 60 к. |
| 550 | 2,1 | 13,23 | 3 р. 98 к. |
| 600 | 2,3 | 14,49 | 4 р. 36 к. |

Прыклад: З ліку 30 цялят ва ўзросьце ад 10-ці дзён да 3-х месяцаў, за месяц далі сярэдня-сутачны прывес:

10 цялят па 300 грам
15 „ „ 400 „
5 „ „ 500 „